ТЭАТР

# СУЧАСНАЕ ПРАЧЫТАННЕ КЛАСІКІ

Тамара БУШКО

Наперад—да класікаў, да Чэхава, Горкага! — ледзь не так, перафразуючы колішні заклік Луначарскага «Назад да Астроўскага!» — гучалі некаторыя выступленні тэатральных дзеячоў на апошнім пасяджэнні мастацкага савета Міністэрства культуры СССР, дзе разглядаліся пытанні тэатральнага жыцця ў краіне.

У гэтым закліку ёсць праўда. Беднасць драматургічнай думкі, кволасць пачуццяў у творах на сучасную тэму і, як вынік, безліч «шэрых», невыразных па рэжысёрскай задуме і акцёрскаму ўвасабленню спектакляў, якія не здольны нікога ўсхваляваць, — гэта бяда многіх тэатраў. Карэнні яе цягнуцца ў наша сёння яшчэ ад таго некалі моднага занядбання класікі, якое ў апошні час стала ледзь не адзнакай «добрага тону» і парушаецца, бадай, толькі напярэдадні юбілейных дат. А часта нават і да «юбілейнай даты» тэатры абмяжоўваюцца тым, што ў пажарным парадку аднаўляюць якую-небудзь ужо не аднойчы адноўленую пастаноўку з ранейшага так званага «залатога фонду». Абтрасаецца пыл з касцюмаў і дэкарацый, сёе-тое падфарбоўваецца, спешна шукаецца адпаведны (а часам і неадпаведны) рэквізіт — і... тэатр «адгукаецца». Не знаходзяць толькі водгуку такія спектаклі ў глядзельнай зале. І няма нічога дзіўнага. Такая пастаноўка, нібы цыраваная шмат разоў панчоха, «распаўзаецца» пасля першых жа паказаў.

Лрыса — А. Клімава.

Інакш рыхтавалася «Беспасажніца» ў Рускім тэатры імя М. Горкага. Рыхтавалася старанна, не дзеля юбілейнага «водгуку», не «дзеля даты». Гэты спектакль стваралі ўсур'ёз і надоўга і — у першую чаргу — для гледача.

Тэатр не палохала тое, што многія памятаюць выдатную, непаўторную і незабыўную Ларысу—Н. Алісаву ў на дзіва ўдалай экранізацыі гэтага твора, цудоўны ансамбль і выключнае па тонкасці і глыбокай вобразнасці рэжысёрскае прачытанне нязвыклай мовай кінематографа.

Не бянтэжыла і тое, што на некаторыя ролі, здавалася, не было ў тэатры адпаведных выканаўцаў — прывычна- традыцыйных «фрачных» акцёраў.

Было галоўнае—гарачае жаданне раскрыць перад сённяшнім гледачом скарбы неўміручага твора А. Астроўскага, давесці, што мова думак і пачуццяў яго герояў не толькі даступная і цікавая нашым сучаснікам, але і **неабходная**. Неабходная, бо можа памагчы нашаму сучасніку глыбей разабрацца ва ўласных пачуццях, памагчы поўнай мерай ацаніць тое, што маем мы сёння, чым павінны даражыць і ганарыцца і аб чым нават марыць не магла Ларыса Агудалава.

І вось ён, спектакль...

Каторы раз гляджу, старанна правяраючы першае ўражанне, дапытліва зазіраючы ў вочы гледачам (пераважная большасць іх на кожным спектаклі—моладзь). Ці ўсхвалявала іх сэрцы драма Ларысы? Ці адчулі яны боль яе няздзейсных надзей, яе нязмерную тугу па вялікім каханні? Ці зразумелі яны яе прагу карыснай дзейнасці, вартай чалавека, ці пакарыла іх моц яе таленавітай натуры?

Калі ў антрактах запальваецца святло, на маладых тварах гледачоў можна бачыць сляды перажытага ўзрушэння. Адчуваецца, што дзяўчаты адсюль выйдуць з горда ўзнятай галавой, шчаслівыя тым, што лёс іх зусім не нагадвае паднявольнага жыцця беспасажніцы... Я бачу: яны ўзрушаны сілай таленту Ларысы, сілай і чысцінёй яе пачуцця—бескампраміснага і палымянага. Пачуцця, адзінага на ўсё жыццё...

Іх узрушыла трагічная, такая недарэчная і такая заканамерная гібель яе ў тым страшным свеце, узрушыла мужная прастата сцэны яе смерці. Каб дасягнуць такога ўражання, рэжысёр нават пайшоў на некаторыя купюры, занядбаў некаторыя рэмаркі аўтара (напрыклад, заключную — у апошняй дзеі). І мы ні ў якім разе не збіраемся папракаць пастаноўшчыка, бо час вымагае карэкціровак у класічнай спадчыне.

Увогуле ж рэжысёр спектакля В. Рэдліх аднеслася да п'есы надзвычай беражліва, імкнучыся захаваць недатыкальнымі атмасферу драмы Астроўскага і яе тэкст, не кроячы ўздоўж і ўпоперак яе жывое цела, як гэта, бывае, робяць часам з класікай занадта смелыя «наватары, што б там ні было».

Таму менавіта ў спектаклі поруч з адчувальным подыхам сённяшняга дня, духам нашага часу жыве і душа адлюстраванай драматургам эпохі, якая знаходзіць водгук у сэрцах нашых сучаснікаў, нават тых, што не маглі на свае вочы бачыць жывога купца, чыноўніка, пыхлівага двараніна.

У гэтым — у сённяшняй пазіцыі мастака, у накіраванасці яго пафасу, у жаданні і ўменні данесці багацці класікі да нашай аўдыторыі, не збядняючы іх і падкрэсліваючы ў іх тое, што напэўна знойдзе водгук у маладога пакалення, — у гэтым, мне здаецца, ляжыць адзіна правільны шлях да сучаснага прачытання класікі.

І калі гаварыць шчыра і непрадузята, не канцэнтруючы ўвагі на асобных недахопах спектакля, то гэтую работу тэатра трэба лічыць удалай. Радуе ў спектаклі работа мастака А. Грыгар'янца, які здолеў стварыць на сцэне непаўторную атмасферу правінцыяльнага прыволжскага горада, дзе жыла і памерла гераіня Астроўскага.

У спектаклі ёсць выдатныя па майстэрству, па глыбіні ўздзеяння сцэны. Гэта, у першую чаргу, трэці акт, які дарэчы, ідзе на дзіва зладжана. Тут трапна знойдзены рытм, натуральныя пераходы, філігранная распрацоўка характараў. Жамчужына трэцяга акта — сцэны сапраўды цудоўнага выканання Ларысай (А. Клімава) раманса. З кожным спектаклем гэтая сцэна ўзбагачаецца, робіцца ўсё больш глыбокай і дзейснай. Калі на першых спектаклях адчувалася яшчэ ў асобных выканаўцаў некаторая неадпаведнасць сцэнічных паводзін душэўнаму стану герояў (занадта рэзка, празаічна абрывалі сцэну Кнураў і Важаватаў), дык цяпер у гэтым акце знойдзена атмасфера агульнага шчырага захаплення і ўзрушэння, якое выклікаецца ва ўсіх спяваннем Ларысы.

Іменна ў гэтай сцэне разумееш, чаму такі дзялок, як Паратаў (І. Шаціла), чалавек, які дзеля выгады ўсё прадасць, ледзь было не «насмяшыў людзей» — ледзь не ажаніўся з Ларысай. Верыш, што сіла мастацтва, якой валодае Ларыса Агудалава, можа на момант узвысіць, узвялічыць нават тых людзей, якімі кіруюць самыя нізкія інстынкты. Трапна паказаны ў гэтай сцэне і стан Рабінзона. Яго па-рознаму добра — выразна і псіхалагічна дакладна, без празмернага камікавання — іграюць Я. Палосін і М. Сокал. Рабінзон, няўдалы акцёр, нібы адкрывае для сябе Ларысу—цудоўны самародак — і даўжэй за іншых знаходзіцца пад абаяннем яе таленту, праводзячы яе позіркам, поўным зайздроснага захаплення.

Увогуле добра вырашаны і чацвёрты акт. Трывожная атмасфера чакання развязкі ўсталёўваецца на сцэне. Душны, летні поўдзень на беразе Волгі змяніўся таямнічай вільготнасцю прыволжскай начы. Пульс жыцця нібы на момант замёр, як перад навальніцай, у прадчуванні непазбежнага няшчасця. Гэтым прадчуваннем непазбежнага пранізана ўсё: і хваравітая мітусня Карандышава, які дарэмна шукае Ларысу, і самотнасць кінутага багатымі «сябрамі» Рабінзона, якому ўжо няма патрэбы іграць ролю дасціпнага весялуна — ён становіцца проста нікому не патрэбным, маленькім старым чалавекам.

Карандышаў — С. Галуза.

І вось — фінал. Ідзе сцэна гібелі Ларысы. Тут, як і ў трэцім акце, гераіня А. Клімавай узрушае глыбокай псіхалагічнай праўдай. У гэтай сцэне асабліва выразна, без наўмыснага падкрэслівання раскрываецца твар агіднага свету куплі і продажу, у якім не могуць жыць натуры з чыстым сэрцам. Тут нават спакушаны глядач адчувае глыбокае хваляванне і радасць за тое, што яму давялося быць сведкам высокага ўзлёту акцёрскага майстэрства, майстэрства перажывання.

Хочацца выказаць побач з радасцю і тое, што засмуціла ў пастаноўцы. Можа, гэтыя заўвагі дапамогуць артыстам і рэжысёру ў далейшай рабоце над спектаклем. Адзін з недахопаў спектакля — празмернасць бытавых акцэнтаў. Яна адчуваецца ўжо да пачатку тэксту ў масоўцы першага акта, калі пад царкоўны перазвон вяртаюцца з абедні гараджане ўсіх саслоўяў. Увесь час, пакуль на сцэне праходзяць пераапранутыя статысты (акцёры і студэнты Тэатральнага інстытута), нас не пакідае ўражанне нечага наўмыснага, несапраўднага. Такая рэжысёрская «шчодрасць» насцярожвае. І калі, нарэшце, пачынаецца дынамічны жывы дыялог Гаўрылы (І. Жараў) і Івана (І. Пятроў), у якім выразна і лаканічна малююцца норавы і звычкі жыхароў горада, нам становіцца зусім яснай непатрэбнасць жывапіснай масоўкі. З гэтага маналога і павінен быў, на маю думку, пачынацца спектакль.

... Вось паважна «прамінае сябе» Мокій Парменыч Кнураў (С. Бірукоў), таропкім крокам «дзелавога чалавека», вяртаецца з прыстані Вася Важаватаў (А. Кашкер). І ўсталёўваецца верагоднасць сцэны, якая, праўда, крыху парушаецца занадта ўжо еўрапейскім (не толькі па касцюму, як прапануе Астроўскі, але і па ўнутранай сутнасці) абліччам і тэмпераментам Васі.

А вось і сама Агудалава. Тут поўная адпаведнасць паміж вобразам, створаным драматургам і тым, што ўвасабляе артыстка Г. Абуховіч. Выканаўца карыстаецца багатай палітрай фарбаў, малюючы хцівую драпежніцу са слядамі былой прыгажосці, у меру лiслівую і ганарыстую, у залежнасці ад абставін. Актрыса іграе лёгка, натуральна.

З нецярплівасцю чакае глядач з'яўлення Ларысы. Вось, нарэшце, і яна. Але што гэта? Усё прыглушана, прыцішана ў мілым сэрцу вобразе. Здаецца, артыстка беражэ сілы. Некаторыя рысы характару сваёй гераіні — яе шчырасць, маладую парывістасць, тэмперамент і безагляднасць пачуццяў своеасаблівай «цыганскай» натуры, пазбаўленай усялякай разважлівасці і разліку, — А. Клімавай пакуль не ўсюды ўдаецца перадаць. У асобных момантах артыстцы нестае драматызму.

Можа таму часамі на першы план выступае Карандышаў. Гэтую ролю выконваюць два зусім розныя акцёры, якія захоўваюць раз і назаўсёды ўстаноўлены рэжысёрам вонкавы малюнак вобраза, але з розным унутраным зместам.

Занадта завостраны вобраз, створаны С. Галузам віртуозна, з бляскам. Такі Карандышаў, якім малюе яго Галуза, мала лепшы за кнуравых і важаватавых. Часамі ён нават больш страшны і агідны за іх. Акцёр з самага пачатку іграе пачварнага ў сваёй бяздушнасці чыноўніка, тупога і педантычнага. Нават не верыцца, што Ларыса хоць на момант магла спадзявацца на «ціхае» шчасце з такім вось Карандышавым.

Мне давялося бачыць у гэтай ролі другога выканаўцу — І. Супруненку. Яго Карандышаў, больш чалавечны і, на маю думку, больш адпавядае духу і ідэі п'есы Астроўскага. Перад намі сапраўды «малады чалавек», які не мае права мець сваю думку перад «сільнымі мира сего». Ён таксама, як і Ларыса, — ахвяра драпежніцкага свету ўласнікаў. І трэба бачыць, як пры такім Карандышаве выйграе сцэна спявання Ларысы ў трэцім акце спектакля. Гэтая сцэна ўзрушае настолькі, што забываеш крыху анемічную Ларысу з першага акта, крыху сентыментальную — з другога. Забываеш і ідылічны кошык, перавязаны стужкай, які не стасуецца менавіта да **гэтай** Ларысы, Ларысы інтэлектуальнай, Ларысы—Клімавай. У руках Клімавай—артысткі гераічнага мужнага таленту, ён — фальшывая дэталь, што скоўвае яе і не дае шчырым і глыбокім пачуццям, якімі жыве выканаўца на працягу **ўсяго** спектакля, пераляцець у гэтай сцэне праз рампу і захапіць у палон гледачоў.

Паратаў — І. Шаціла.

Можна прывесці некалькі прыкладаў не зусім удалых, на наш погляд, рэжысёрскіх рашэнняў, якія грашаць прасталінейнасцю. Так, у першым акце Ларыса слухае песню дзяўчат за Волгай. Але песня гучыць невыразна, і таму гэтая сцэна пакуль што не стала арганічнай у спектаклі.

Тое ж самае атрымоўваецца і ў чацвёртым акце. Толькі тут пачынаеш здагадвацца, навошта светлую, чыстую і сціплую Ларысу мастак апрануў у зусім не дзявочую ярка чырвоную сукенку з доўгім шлейфам, які на працягу двух актаў замінае ёй на кожным кроку. Аказваецца, гэта патрэбна для таго, каб гераіня, уцякаючы ў апошнім акце ад бязлітаснага прысуду брэцёра Паратава, пакідала за сабою барвовы след. Такое ўражанне ствараецца промнем чырвонага святла, які нібы цягнецца за шлейфам чырвонай сукенкі. Але, «з-за тэхнічных прычын» светлавы эфект не ў кожным спектаклі ўдаецца. Промень адстае ад руху гераіні, і таму частка гледачоў так і не разумее, навошта Ларысу апранулі ў чырвоную сукенку. А тыя, хто разумеюць, бачаць урэшце аголены рэжысёрскі прыём.

Гэтыя, здавалася б, дробязі псуюць уражанне ад увогуле добрай пастаноўкі. Але мы не сумняваемся, што многія з адзначаных недахопаў у працэсе далейшай работы над спектаклем могуць быць ліквідаваны. Ужо цяпер на кожным новым паказе «Беспасажніцы» відаць, як вядуцца няспынныя пошукі найбольш адпаведнага ўвасаблення рэжысёрскай задумы. Упарта і настойліва шукаюць больш дакладнага вырашэння сцэнічных вобразаў выканаўцы галоўных роляў—А. Клімава і І. Шаціла. Так, І. Шаціла адмовіўся ад празмернай зухаватасці ў першым акце, больш стрымана і пераканаўча пачаў весці другі акт і зусім добра трэці і чацвёрты.

Спектакль на вачах расце і ўдасканальваецца. У добры час!

## 250 АГІТБРЫГАД

Жаданымі гасцямі ў працаўнікоў палёў Магілёўскага раёна сталі члены агітбрыгады раённага Дома культуры. Гэты самадзейны калектыў ужо выступіў з канцэртамі ў сёлах калгасаў імя Леніна, «Маяк камунізма», «Герой працы», саўгаса «Магілёўскі» і іншых гаспадарак. Шырокую папулярнасць набылі трапныя сатырычныя частушкі, якія бічуюць канкрэтныя недахопы ў калгасах. Гэтыя частушкі складае мастацкі кіраўнік агітбрыгады Л. Беразуева.

Нязменным поспехам у хлебаробаў карыстаюцца выступленні дыпламанта Рэспубліканскага конкурсу — агітбрыгады Клімавіцкага раённага Дома культуры. У дні сяўбы яна пабывала ў саўгасах «Раднянскі», «Высокаўскі», калгасе «Шлях да камунізма». Навіной у рабоце многіх агітбрыгад з'яўляюцца перасоўныя куткі палітычнай сатыры на міжнародныя тэмы.

Сіламі агітбрыгад вобласці за час веснавой сяўбы дадзена для працаўнікоў палёў звыш тысячы канцэртаў.

## Палеская мастацкая галерэя

Новая ўстанова культуры — Палеская мастацкая галерэя — ствараецца ў Пінску. Міністэрства культуры СССР выдзеліла для яе 400 твораў сучаснага выяўленчага мастацтва. 40 работ майстроў жывапісу XVIII—XX стагоддзяў перадаў Мастацкі музей БССР. У ліку іх — карціны І. Айвазоўскага «Мора», І. Шышкіна «Сад», В. Паленава «Лес», В. Пярова «Мужчына з ружжом», творы В. Васняцова, К. Макоўскага, Ф. Жураўлёва, беларускага мастака Ю. Пэна і іншых вядомых аўтараў. Дванаццаць узораў жывапісу XVIII—XX стагоддзяў перадала новаму ачагу культуры Дзяржаўная Траццякоўская галерэя.

У Палескай мастацкай галерэі ствараюцца аддзелы дарэвалюцыйнага рускага і савецкага выяўленчага мастацтва, прыкладной творчасці беларускага Палесся. Масавы сектар будзе займацца арганізацыяй выставак, экскурсій, лекцый.

## Прэм'еры народных тэатраў

Народны тэатр Брагінскага раённага Дома культуры паказаў прэм'еру спектакля па камедыі А. Макаёнка «Лявоніха на арбіце». Галоўныя ролі выконваюць настаўніца Вікторыя Пісарэнка, загадчык пастановачнай часткі тэатра Яраслаў Сачок. Гэта ўжо другая прэм'ера народнага тэатра ў бягучым годзе. У перыяд веснавых палявых работ самадзейныя артысты выступалі ў калгасах імя Леніна, «18 партз'езд», саўгасе «Астрагляды».

Новы спектакль па п'есе А. Афінагенава «Маці сваіх дзяцей» падрыхтаваў Рэчыцкі народны тэатр. Акрамя гледачоў Рэчыцы, яго глядзелі таксама працаўнікі саўгаса «Падлессе» і калгаса «40 год Кастрычніка». Цёпла сустрэлі гледачы Мазыра прэм'еру спектакля па п'есе Э. Ранета «Блудны сын», якую паказаў нядаўна мясцовы народны тэатр. Пра жыццё моладзі расказвае спектакль «Картачны домік» па п'есе О. Стукалава, нядаўна пастаўлены народным тэатрам Гомельскага Палаца культуры чыгуначнікаў.

За перыяд веснавых палявых работ народныя тэатры вобласці паказалі на сельскіх сцэнах больш як 20 спектакляў.

(БЕЛТА).

# РЫХТУЕЦЦА ПАПАЎНЕННЕ БАЛЕТА

Беларускі тэатр оперы і балета імкнецца штогод папаўняць сваю балетную трупу за лік выпускнікоў Мінскага харэаграфічнага вучылішча. Ужо цяпер калектыў артыстаў балета ў большасці складаецца з былых выхаванцаў нашага вучылішча. Праўда, у многіх з іх, калі яны трапілі на прафесіянальную сцэну, выявілася недастатковае валоданне танцавальнай тэхнікай. Наганяць прапушчанае ў працэсе навучання маладым артыстам давялося ўжо ў час работы ў тэатры, што стрымлівала іх творчы рост і адмоўна адбівалася на мастацкім узроўні ўсёй трупы.

Якое папаўненне атрымае балетны калектыў тэатра ў бліжэйшы час? Адказ на гэтае пытанне павінен быў даць справаздачны канцэрт навучэнцаў харэаграфічнага вучылішча, што адбыўся нядаўна на сцэне опернага тэатра. На жаль, сёлета не будзе выпуску маладых артыстаў балета, і таму канцэртная праграма абмяжоўвалася толькі выступленнямі вучняў малодшых і сярэдніх класаў.

Параўноўваючы сёлетні канцэрт з леташнім, можна сказаць, што на гэты раз вучылішча лепш падрыхтавалася да публічнага паказу сваіх творчых здабыткаў. Асабліва паспяхова выступілі самыя малодшыя ўдзельнікі канцэрта — вучні першага класа, дзе педагогам заслужаная артыстка БССР Н. Младзінская. Першакласнікі выканалі танец з балета «Шчаўкунчык».

Шчыра і дасціпна выканалі вучні першых-другіх класаў жартоўны танец «Вясёлыя лялькі», падрыхтаваны педагогам Н. Малахавай. Старанна і настойліва працавала з вучаніцамі чацвёртага класа малады педагог В. Камарова над пастаноўкай вядомага танца «Маленькіх лебедзяў» з балета «Лебядзінае возера».

Выступленні вучняў малодшых і сярэдніх класаў увогуле прайшлі добра. Але педагогам вучылішча трэба больш уважліва сачыць за асобнымі дэталямі танца («вываратнасць», «пліе» і г. д.), не дапускаць адхіленняў ад строгіх форм харэаграфічнай класікі. Навошта, напрыклад, у малодшых класах захапляцца ўскладненнем танцавальных рухаў, калі педагогу-пастаноўшчыку неабходна перш за ўсё дамагацца, каб твор быў выкананы дакладна і правільна. Многае тут залежыць ад умення перадаць характар і настрой музыкі, раскрыць стыль і манеру танца. Але на гэта, відаць, у вучылішчы звяртаюць мала ўвагі. Бо ў канцэрце, бадай, толькі Л. Бжазоўская (пяты клас) і Ул. Глінскіх (сёмы клас) мякка і пявуча станцавалі класічны эцюд. Іншыя ж выканаўцы яшчэ не адчуваюць стылю і характару музыкі, і таму ўражанне ад іх выступлення засталося няпоўнае.

Мяркуючы па канцэртнай праграме, выкладанне класічнага танца для юнакоў вучылішча мае значныя хібы. Педагогі не дабіваюцца ад сваіх вучняў у час трэніровачных заняткаў закончанасці і дакладнасці танцавальных рухаў, асабліва ў класічных творах. Пра гэта яскрава сведчыў найбольш слабы нумар праграмы — варыяцыя з балета «Дон-Кіхот», які толькі і быў прадстаўлены ў канцэрце мужчынскі класічны танец. Сямікласнікам В. Карулісу і А. Рамашэўскаму было вельмі цяжка выконваць гэтую варыяцыю, бо яны дрэнна валодаюць тэхнікай класічнай харэаграфіі. Педагог Н. Сямілетнікава яўна пераацаніла магчымасці сваіх выхаванцаў. Такія няўдалыя выступленні падрываюць у вучняў веру ў свае сілы і, апрач таго, наносяць душэўную траўму. Пры падборы канцэртных нумароў трэба абавязкова ўлічваць здольнасці юных выканаўцаў, не забываючы пра тое, што кожнае іх выступленне на вялікай сцэне — своеасаблівы творчы экзамен.

Выкладанне спецыяльных дысцыплін у мужчынскіх класах (асабліва старэйшых) часта вымагае ад педагога ўмення на практыцы паказаць вучням найбольш складаныя танцавальныя рухі. Таму выклікае здзіўленне, што ў нашым вучылішчы асноўны прадмет — класічны танец — даручана весці сярод юнакоў педагогу-жанчыне.

У канцэрце адчувалася некаторая аднастайнасць рэпертуару. За выключэннем «харэзмскага танца», тэмпераментна выкананага А. Бараўковай (педагог І. Дароніна), і «Лявоніхі», паказанай вучнямі першых-чацвёртых класаў, галоўнае месца ў праграме займалі класічныя творы. Выкладчыкі народна-характарнага танца не паклапаціліся аб падрыхтоўцы да канцэрта больш разнастайных нумароў з народнай харэаграфіі.

Нам здаецца, што мастацкаму кіраўніцтву вучылішча варта даўно ўжо падумаць пра пастаноўку сіламі вучняў усіх класаў цэлага балетнага спектакля, як гэта робіцца ў Маскоўскім, Кіеўскім, Пермскім і іншых харэаграфічных вучылішчах краіны. Работа над спектаклем бясспрэчна будзе спрыяць павышэнню акцёрскага майстэрства ў здольных хлопчыкаў і дзяўчатак, прывучыць іх да рэгулярнай сцэнічнай практыкі.

У сувязі з гэтым вучылішчу неабходна наладзіць больш цесную і пастаянную сувязь з балетнай трупай нашага тэатра. Чаму, скажам, не запрасіць для творчых кансультацый і пастаноўкі з вучнямі асобных танцаў галоўнага балетмайстра тэатра А. Андрэева і балетмайстра Н. Стукалкіну?

Выхаванне маладых артыстаў балета — вялікая і адказная задача. Ад прафесіянальнага майстэрства залежыць не толькі іх уласны поспех, але і творчы рост усёй балетнай трупы, куды яны пасля заканчэння вучобы накіроўваюцца на працу. Мастацкаму кіраўніцтву вучылішча трэба прыкласці ўсе намаганні да таго, каб са сцен спецыяльнай навучальнай установы выходзілі сапраўды высокакваліфікаваныя выканаўцы.

А. КАЛЯДЭНКА.

Ва ўсіх цэхах завода «Мазыркабель» створаны кніжныя вітрыны «Цікава ведаць». На іх выстаўлена літаратура па многіх раздзелах тэхнічных ведаў, па пытаннях партыйнага, камсамольскага і прафсаюзнага жыцця.

На здымку вы бачыце рабочых валачыльна-круцільнага цэха ля кніжнага стэнда «Цікава ведаць». На пярэднім плане — слесар Л. Куліш (справа) і адпальшчык Г. Ругаль.

Фота Ч. МЕЗІНА. (БЕЛТА).

# ВЫТВОРЧАСЦЬ ЦІ МАСТАЦТВА?

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)

цу ў Тэатр імя Я. Коласа і не займалі б са спектакля ў спектакль у адказных ролях, нарэшце, у рэцэнзіях на спектакль «Крыніцы» не адзначалася б, што моладзь цалкам улілася ў сцэнічны ансамбль і працуе на добрым прафесіянальным узроўні. Паўтараем, мы далёкія ад таго, каб захапляцца ўласнымі здольнасцямі. Мы ведаем, што многага яшчэ не ўмеем. У словах таварыша Браганцава шмат горкай для нас праўды: мы не заўсёды бываем канкрэтныя ў прапануемых акалічнасцях, часта паглыбляемся ў самаперажыванні і г. д. Але ж і сам тав. Браганцаў адзначае, што гэтыя недахопы ўласцівы і акцёрам больш вопытным, чым мы. Ці азначае гэта, што мы не прайшлі сапраўднай школы? Наўрад. Нам нестае рэжысёра-педагога. Не выпадкова адны і тыя ж маладыя артысты так па-рознаму выглядаюць у спектаклях розных рэжысёраў. Іх параўнанне будзе не на карысць рэжысёра Браганцава.

Рэжысёр у тэатры — асоба, уладай надзеленая. Здавалася б, нішто не павінна перашкаджаць яму ажыццяўляць свае творчыя ідэалы. Што ж атрымліваецца на справе? Працуючы над п'есай, вы, Барыс Міхайлавіч, не ідзяцё ад творчай індывідуальнасці акцёра, з першых жа рэпетыцый патрабуеце канчатковага выніку, патрабуеце праяўлення тэмпераменту тут, зараз, сёння, не абцяжарваючы сябе задачай памагчы акцёру знайсці неабходныя «манкі» для выяўлення гэтага тэмпераменту. А «нацягванне» на вынік ідзе ў разрэз з сістэмай Станіслаўскага, у няведанні якой вы папракаеце нас.

Чаму мы так адхіліліся ад тэмы і пачалі палеміку з тав. Браганцавым на старонках газеты? Здавалася б, мы маглі паспрачацца з ім і ў тэатры. Але мы лічым, што наша спрэчка мае не толькі мясцовы, а, перш за ўсё, прынцыповы характар, тым больш, што аб прэтэнзіях тав. Браганцава да нас мы даználіся ўпершыню не ад яго самога і не ў працэсе нашай сумеснай работы. Крытыка ў наш адрас вялася Браганцавым за нашай спіною — у самадзейнасці, якой ён кіруе, на пленуме Тэатральнага таварыства, нарэшце, на старонках газеты. Хіба гэта па-таварыску? Каму, як не вам, Барыс Міхайлавіч, ведаць, як можа памагчы больш вопытны калега пачынаючаму! Бо ў свой час былы галоўны рэжысёр тэатра Ю. Шчарбакоў не шкадаваў ні часу, ні сіл, каб вашы спектаклі ў гэтым тэатры былі больш моцнымі мастацкі і прафесіянальна. Чаму ж вы не бярэце з іх добрага прыкладу ва ўзаемаадносінах з намі?

АЛЕ ВЕРНЕМСЯ да размовы аб традыцыях. Тэатр імя Я. Коласа, як і многія іншыя тэатры краіны, быў створаны з выпускнікоў адной школы. Вынік — слаўнае жыццё тэатра на працягу амаль сарака год. Гэтую традыцыю тэатр вырашыў аднавіць: летась ён запрасіў на работу адзінаццаць выпускнікоў Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута. Міністэрства культуры БССР, нягледзячы на пратэсты іншых тэатраў, якія патрабавалі маладога папаўнення, падтрымала гэтую ініцыятыву. Але вельмі хутка міністэрства пачало дзейнічаць дужа своеасабліва: яно адклікала на іншую работу спачатку дырэктара тэатра, а потым і галоўнага рэжысёра. Тэатр, вядома, жыве і будзе жыць, пакуль у ім ёсць акцёры. Але для моладзі, якая толькі пачынае свой творчы шлях, застацца без мастацкага кіраўніка — раўназначна страце галоўнага напрамку. Таварышы з Міністэрства культуры! Не паўтарайце такіх вопытаў! Не дайце ім стаць традыцыяй! Не пакідайце моладзь без сапраўднага мастацкага кіраўніцтва!

І яшчэ адна з'ява, што пагражае стаць нядобрай традыцыяй. Тэатр імя Я. Коласа за сезон выпусціў восем спектакляў, тры аднавіў, а ўсяго ішло каля пятнаццаці назваў. Здавалася б, рэпертуар шырокі, ёсць з чаго выбіраць. Аднак, калі вы не тэатральны крытык, да прыезду якога тыднёвы рэпертуар могуць істотна змяніць, а звычайны глядач, дык прыехаўшы ў Віцебск на тыдзень, не спадзявайцеся ўбачыць у нашым тэатры больш адной п'есы. У лепшым выпадку вы можаце ўбачыць дзве розныя п'есы за тыдзень. Працуючы па забароненаму нават у тэхніцы метаду «на знос», мы выціскаем фінплан. Калі гледачу спектакль падабаецца, яго іграюць месяц-паўтара амаль бесперапынна, да чарговай прэм'еры. Затым ён адпраўляецца ў «ваяж» па раёнах, а на стацыянары «цісненца» новы. Не гаворачы ўжо аб чыста фізічных пакутах артыстаў, якія іграюць кожны дзень адно і тое ж, калектыў разбіваецца да таго ж на некалькі маленькіх трупак — тэатрыкаў адной п'есы. Адбываецца распыленне сіл. Так і жывуць у адным будынку «паралельныя» трупы, амаль не сустракаючыся адна з адной. Той-сёй тлумачыць гэта становішча малой колькасцю насельніцтва (а значыць і гледача) у горадзе. Але ці так гэта? Хіба колькасць гледачоў, якія жадаюць паглядзець новы спектакль, зменшыцца, калі ён будзе ісці не 20—30 разоў у месяц, а хоць бы ў два разы менш? На нашу думку, лепш за ўсё абслугоўвае гледача той тэатр, у які вельмі цяжка трапіць на пастаноўку, калі трэба знайсці для сябе спецыяльны дзень, каб паглядзець новую п'есу, калі кожны тыдзень можна зноў убачыць стары спектакль, які табе спадабаўся. Ці не ідзе гэты метад работы «на знос» ад пераканання кіраўніцтва тэатра, што дадзены спектакль не з'яўляецца вялікім творчым дасягненнем і з яго трэба паспець выціснуць усё, што можна, пакуль глядач не разабраўся ў гэтым? А калі гэта так, то неабходна падстрахоўка ў выглядзе «паралелі». Але і «паралель» не можа быць паўнацэнным мастацкім творам, таму што занятасць у такім спектаклі акцёраў вызначаецца не творчымі, а чыста «вытворчымі» меркаваннямі. Загадзя асуджаючы сябе на мастацкую непаўнацэннасць, тэатр, натуральна, аказваецца ў становішчы прадаўца, які хоча збыць тавар трэцяга гатунку за добрую цану. Ці не пара з гэтым пакончыць? Тэатр павінен несці народу **мастацтва**, а не паралельныя брусы!

ГАВОРАЧЫ пра традыцыі, мы павінны былі б успомніць і пра наватарства. Але спрэчкі аб наватарстве ў мастацтве часта набываюць характар схаластыкі, таму што вядуцца яны ў адрыве ад канкрэтных твораў мастацтва, ад надзённых яго патрэб. Усякае **сапраўднае мастацтва** — заўсёды наватарства. А практыка сённяшняга тэатра паказвае, што ў нас вельмі часта забываюцца на тое, што **тэатр** — гэта **мастацтва**. І вялікую шкоду наносяць яму тыя так званыя «традыцыі», якія сталі непатрэбным цяжарам і тормазам, што даўно пара здаць ва ўціль. Нельга дапускаць, каб тэатр, заклікаць быць трыбунай эпохі, вястуном светлых ідэй камунізма, каб гэты **тэатр** быў пазбаўлены галоўнага — **мастацтва!**

# ЗРОБЛЕНА Ў МІНСКУ

*Нататкі з выстаўкі*

Хаджу па выстаўцы тавараў народнага спажывання прадпрыемстваў горада Мінска і размаўляю з надзвычай цікавым субяседнікам. Спыніліся ля гарнітура мэблі для аднапакаёвай кватэры.

Не магу не падзяліць захаплення субяседніка. На дзіва зручны, прыгожы, зроблены з густам набор прыняты для вырабу мэблевай фабрыкай «Радзіма». Шафа, стол, шэсць крэслаў, сервант, сакрэтар, канапа-ложак, столік для тэлевізара. Матэрыял — адбелены ясень, без якіх там ні было інкрустацый дубам, арэхам ці чым іншым. (Ох, гэтыя інкрустацыі — разлічаны яны на густ не надта патрабавальны, затое цану на прадмет павышаюць надта!). Уся мэбля ў наборы — невялікіх габарытаў: улічаны вышыня і памеры сучасных кватэр. Але плошчу стала пры патрэбе можна павялічыць у два разы. А шафа, наадварот, адчыняецца свабодна нават тады, калі прастора перад ёю ў два разы меншая за шырыню кожнай дзверкі. Як выгадна адрозніваецца гэтая шафа ад груваcткіх гардэробаў, якія ўсё яшчэ выпускаюцца некаторымі фабрыкамі, і якія, дарэчы, ёсць і на выстаўцы!

Мой субяседнік прыкідвае, як лепей гарнітур расставіць. Ён абураецца, што сёлета фабрыка выпусціць толькі сто такіх гарнітураў («Гэта ж здзек з пакупніка!»). Ён дапытваецца, ці можна будзе купляць толькі частку, а не ўсе прадметы гарнітура. Ён раптам заўважае, што на столік для тэлевізара аўтарам нібы не хапіла фантазіі—спрошчаны, горшы за астатнія рэчы гарнітура. Выказвае меркаванне, што, мабыць, і канструкцыю ложка-канапы варта палепшыць...

Ён гаваркі, тэмпераментны і часам не надта паслядоўны, гэты мой субяседнік. Але супярэчлівасць яго зразумелая і даравальная: субяседнік, з якім я — ды і не адзін я! — ахвотна гаварыў на выстаўцы — гэта сшытак з водгукамі наведвальнікаў. Сшытак, за якім паўстае шматабліччы, патрабавальны і — што асабліва прыемна — надзвычай культурны пакупнік і спажывец.

Шчыра кажучы, у мяне склалася ўражанне, што арганізатары выстаўкі ўжо загадзя трохі яго пабойваліся. Ці не таму, як шчыты, насцярожана стаяць перад таварамі некаторых прадпрыемстваў подпісы: «Попытам карыстаецца. Рэкламацыі няма». Але які ж гэта ненадзейны і нават смешны шчыт! Ну, хіба адсутнасць рэкламацый, напрыклад, на саладжавую фігуру «Алёнушкі», якую ўжо каторы год фарфоравы завод выкідае на прылаўкі магазінаў, апраўдвае выраб яе і ў далейшым? Ды вы ж, безумоўна, разумееце, таварышы кіраўнікі завода, што «Алёнушка» — тыповы мяшчанскі атрыбут. Густ у вас ёсць — завод выпускае і добрыя рэчы: у наведвальнікаў выстаўкі святлеюць вочы хоць бы ад забаўных фігурак маленькіх школьнікаў. Але, відаць, каб выканаць план, завод гатовы патрапляць любому пакупніку, забыўшыся, што галоўнае — выхоўваць добры густ, а не дагаджаць дрэннаму.

Ці яшчэ адно такое ж баязлівае папярэджанне — на стэндзе фабрыкі мастацкіх вырабаў: «Блузкі жаночыя карыстаюцца павышаным попытам. Рэкламацый няма». А сярод водгукаў — справядлівая водпаведзь: «Няўжо не зразумела, што блузкі, якія не маюць рэкламацый, не модныя і нікому не патрэбныя...» І нават больш: «Далоў з быту і з вітрын падобную безгустоўшчыну!».

Мабільнасць вытворчасці... Яе нестае, вельмі нестае прадпрыемствам, што выпускаюць у нас тавары народнага ўжытку. Шыюць жа на фабрыцы мастацкіх вырабаў такія прыгожыя рэчы, як плацці з ільнянога палатна — колькі харошых слоў аб іх пакінулі наведвальнікі! Элегантны сучасны фасон — і ў той жа час беларускі нацыянальны каларыт. Чаму б не падумаць і пра крой блузак, не памяняць, не палепшыць яго? Дык не — бярыце, жанчыны, адзенне, сілуэт якога яшчэ матулі вашы лічылі застарэлым.

Культура вытворчасці... Яе таксама нестае. Выстаўляе мэблевая фабрыка імя Дзімітрава стол новай канструкцыі: апушчаны бакавыя крыллі — тумбачка; крыллі падняты — вялікі абедзенны стол. Рэч у задуме зручная і дасціпная, нічога не скажаш. Але як жа псуе яе неахайнае выкананне! Так і бачыш майстра, які рабіў абы збыць: маўляў, усё роўна возьмуць, мэблі ж не хапае.

У чалавечай натуры — характэрная асаблівасць: адгукацца або на вельмі добрае, або на вельмі ж паганае. У першым выпадку — захапляемся, у другім—абураемся. А паўз рэчы пасрэдныя, шэрыя — праходзім абыякава, іх неяк проста не заўважаем. Так у літаратуры, у мастацтве — так і ў побыце. Між тым, шэрасць, пасрэднасць можа страшнейшыя за яўную халтуру: тую — аблаюць, выкрыюць, а на пасрэднасць — махнуць рукой.

Мой разумны субяседнік — сшытак з водгукамі наведвальнікаў — таксама вельмі многае на выстаўцы абмінае. Такое, пра што не скажаш ні добрага, ні кепскага. Напрыклад, сувеніры. Рэч гэта не першай неабходнасці — не мэбля, не адзенне. Але хто не сутыкаўся з праблемай: што падараваць прыяцелю на ўспамін аб яго прыездзе ў Мінск? Якія дробязі ўзяць з сабою, ад'язджаючы ў турысцкае падарожжа?

Мала, вельмі мала прапануюць нам для гэтага мінскія прадпрыемствы. І выстаўка — таксама. А тое, што прапаноўваецца, далібог жа, надзвычай нецікавае. Вось драўляныя шкатулкі-кніжкі. Чаму ў малюнках на іх так мала выдумкі і густу? І якая ж бедная фантазія патрэбна, каб цалкам паўтарыць на вечку такую, прынамсі, вокладку: «Янка Купала. Алеся. Детгиз. 1945 год». Чаму іменна гэтае купалаўскае выданне рашылі захаваць аўтары шкатулкі ў памяці людской? Чым яно такое адметнае?

Дарэчы — хто гэтыя аўтары? Чаму імёны мастакоў — людзей, што стваралі і добрыя, і не вельмі добрыя ўзоры — на выстаўцы не названы? Хіба публічнасць — не стымул для лепшай работы?...

Выстаўка выклікала жывую цікавасць і яшчэ раз паказала, што мінчане — патрыёты свайго горада. Хочацца ім, каб тавары з маркай «Мінск» заваёўвалі ўсё больш і больш прыхільнікаў сваёй высокай культурай і густам. І мастацкім саветам прадпрыемстваў трэба ўважліва паставіцца да выказванняў «субяседніка», з расказу аб якім пачаў я гэтыя нататкі.

**Ул. МЕХАЎ.**

# ДРУГАЯ СУСТРЭЧА

Заўтра ў Мінску пачынае свае гастролі Маскоўскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга тэатр імя Ленінскага камсамола. Вялікі творчы калектыў будзе выступаць у нашым горадзе ўжо другі раз (упершыню ён гастраліраваў у сталіцы Беларусі ў 1949 годзе). Мінчане з вялікай цікавасцю чакаюць новай сустрэчы з маскоўскімі артыстамі.

Тэатр імя Ленінскага камсамола ўзнік 35 год назад па ініцыятыве ЦК ВЛКСМ як тэатр рабочай моладзі. Міналі гады. Ва ўпартай працы і няспынных пошуках удасканальвалася майстэрства мастацкага калектыву, раслі інтарэсы і сімпатыі да яго гледачоў. Вакол тэатра складваўся актыў пастаянных аўтараў, якія ў сваіх драматычных творах імкнуліся стварыць вобраз маладога чалавека нашай эпохі. Менавіта тут упершыню быў увасоблены вобраз непахіснага Паўкі Карчагіна з інсцэніроўкі рамана М. Астроўскага «Як гартавалася сталь». Адсюль ён пайшоў на шматлікія тэатральныя падмосткі нашай краіны.

У канцы 30-х гадоў у тэатр прынёс п'есу тады яшчэ малады пісьменнік і драматург Канстанцін Сіманаў. З таго часу камсамольскі тэатр моцна звязаў сваю творчую біяграфію з імем гэтага аўтара, паставіўшы амаль усе яго п'есы («Гісторыя аднаго кахання», «Рускае пытанне», «Так і будзе», «Пад каштанамі Прагі»).

Блізкая тэатру і драматургія А. Арбузава. Яго п'еса «Гады вандраванняў», пастаўленая калектывам некалькі год назад, і цяпер вабіць гледачоў шчырым апавяданнем пра нялёгкі лёс герояў, іх творчыя пошукі, смутак і радасці.

Вялікая дружба існуе паміж тэатрам і пісьменнікам І. Паповым, п'еса якога «Сям'я» — пра юнацтва Уладзіміра Ільіча Леніна карыстаецца нязменнай любоўю моладзі. Не выпадкова так арганічна і надоўга спектакль па гэтай п'есе ўвайшоў у сцэнічны рэпертуар калектыву.

Вельмі цікавая, таленавітая, хоць і крыху разнародная акцёрская трупа тэатра. Яе ядро складаюць артысты, якія шмат год працуюць на сцэне Тэатра імя Ленінскага камсамола, аднагодкі і вучні І. Бярсенева, бліскучага майстра сцэны і рэжысёра, які шмат год узначальваў гэты творчы калектыў. З выканаўцаў роляў у многіх спектаклях мінчане ўбачаць народную артыстку СССР С. Гіяцынтаву, народную артыстку РСФСР Е. Фадзееву, заслужанага артыста РСФСР і Уз ССР В. Салаўёва, заслужаных артыстаў рэспублікі В. Сярову, З. Кузняцову, В. Усеваладава, А. Воўсі, В. Маруту, А. Пелевіна. Вялікую любоў гледачоў заваявалі акцёры сярэдняга пакалення — М. Ліфанава, Г. Мацзеева, Г. Карновіч-Валуа, В. Ларыёнаў.

У тэатр прыйшло таленавітае папаўненне. Маладыя выканаўцы правільна разумеюць ідэйна-мастацкія задачы тэатра. Упарта, з пачуццём вялікай адказнасці і ў той жа час з энтузіязмам і цікавасцю працуюць яны над стварэннем вобразаў у пастаноўках, якія раскрываюць чысціню, глыбіню і сумленнасць чалавечых адносін, бічуюць безыдэйнасць, мяшчанства, гультайства. Радуюць сваімі поспехамі маладыя акцёры М. Струпава, Н. Кузьміна, Н. Гошава, М. Дзяржавін, В. Каровін, В. Казлоў, А. Шырвіндт, В. Багачоў і іншыя.

Пастаноўку спектакляў у тэатры ажыццяўляюць вядучыя акцёры тэатра — С. Гіяцынтава і В. Салаўёў, рэжысёры — заслужаны дзеяч мастацтва РСФСР С. Штэйн і О. Рэмез, заслужаны дзеяч мастацтва Армянскай ССР Р. Капланян.

Тэатр дасць у Мінску дзесяць спектакляў. Апрача такіх, шырока вядомых пастановак, як «Сям'я», «Гады вандраванняў», «Так і будзе», творчы калектыў пакажа беларускім гледачам некаторыя новыя работы. У п'есе «Вялікае хваляванне» І. Дварэцкага, пастаўленай О. Рэмезам, расказваецца пра мужных, сціплых байкальскіх рыбакоў, за грубаватай знешнасцю якіх хаваецца чулая душа. Пазнаёмяцца мінчане і са спектаклем «Наташчын мост» па п'есе Э. Брагінскага. Гэта своеасаблівая рамантычная камедыя, пастаўленая рэжысёрамі Б. Талмазавым і О. Рэмезам, узнімае пытанні аб давер'і, сумленні, любві.

У Мінску пойдуць таксама новыя пастаноўкі — «Небяспечны ўзрост» С. Нарыньяні, «Начны цуд» Г. Ягджана, «Чамадан з наклейкамі» Д. Угрумава.

З зарубежнай драматургіі камсамольскі тэатр пакажа вострасатырычную п'есу прагрэсіўнага аргенцінскага пісьменніка А. Кусані «Цэнтр нападу памрэ на світанні», а таксама п'есу венгерскага аўтара І. Фейера «З завязанымі вачыма».

**А. ІВАНОВА.**

Наш міжнародны каментарый

— Арэвуар, мадам Феміда!

Мал. Ул. БАРАНОЎСКАГА.

Адбыўся заключны канцэрт V дэкады творчых справаздач самадзейных калектываў Палаца культуры прафсаюзаў. У канцэрце прынялі ўдзел шматлікія гурткі і асобныя выканаўцы.

На здымках: уверсе — танец «Рускі сувенір» у выкананні дзіцячага харэаграфічнага калектыву, унізе — салістка Р. Шчурок спявае песню «Не корите меня, не браните» ў суправаджэнні аркестра народных інструментаў.

Фота Ул. КРУКА.

# ПАЭТ-ГРАМАДЗЯНІН

Свободный поэт, я призван
моею страной писать
О добрых делах, а также
о славе дурной писать.
Сияющим — день, а полночь—объятою тьмой
писать,
Кривое — кривым, прямое
— чертою прямой писать.—

Так пісаў у адным са сваіх праграмных вершаў выдатны азербайджанскі паэт-сатырык, паэт-грамадзянін, стагоддзе з дня нараджэння якога адзначаецца сёння.

Сабір (Мірза Алекпер Таірзадэ) займае асаблівае месца ў дарэвалюцыйнай азербайджанскай літаратуры. Творчасць паэта была цесна звязана з сатырычным часопісам «Мала-Насрэдзін», які аб'ядноўваў вакол сябе лепшых прадстаўнікоў азербайджанскай інтэлігенцыі, смела выступаў супраць царызму, супраць мясцовых памешчыкаў і капіталістаў, рэлігійных фанатыкаў і цемрашалаў. Пад уплывам гэтага дэмакратычнага часопіса па-новаму загучалі вершы Сабіра, талент якога быў скаваны на першым часе ўстарэлымі паэтычнымі формамі, рамкамі ўсходняга класіцызму.

Можна нават сказаць, што росквіт сабіраўскай творчасці і пачынаецца з таго часу, калі ён напісаў першы сатырычны верш і калі ён быў змешчаны ў часопісе. Першыя сатыры Сабіра ствараюць рэалістычную карціну жыцця і быту мяшчанска-патрыярхальнага грамадства не толькі Азербайджана, але і ўсяго мусульманскага ўсходу.

Сатырычны талент Сабіра рос надзвычай хутка. Зрабіўшыся сталым актыўным супрацоўнікам часопіса «Мала-Насрэдзін», Сабір не мог стаяць у баку ад палітычных падзей і абмяжоўваць крытыку грамадства толькі сатырамі на невуцтва і фанатызм, заклікамі да культуры і прагрэсу. Разам з часопісам рос і паэт, ён усё больш станавіўся песняром рэвалюцыйнага руху, паэтам працоўных мас. У многіх сваіх творах Сабір паказвае чытачу—працаўніку фабрыкі і зямлі—звярыны твар таго, хто «прыгнятае і балюе», твар эксплуататара, ад якога нельга чакаць літасці і чалавечнасці.

Не будучы пралетарскім паэтам, не разумеючы да канца характар класавых узаемаадносін, Сабір прама не заклікаў да звяржэння існуючага ладу, не ставіў пытанняў пралетарскай рэвалюцыі. Але сваімі гнеўнымі выступленнямі супраць дармаедаў і прыгнятальнікаў, сваім бязлітасным выкрыццём наскрозь ілжывага феадальна-памешчыцкага грамадства паэт аб'ектыўна дапамагаў пралетарыяту ў яго барацьбе.

Сабір выступае як верны сын народа, які носіць у сваёй душы яго смутак і гора, як перадавы баец, гатовы да барацьбы, як паэт, які выказвае ў сваіх творах думы і надзеі працоўнага люду.

Так отдай печаль певцу,
Человек нужды и бед!
Время, чтобы всех скорбей
Стал носителем поэт.

(«Перайманне»)

Паэт быў увесь накіраваны ў будучае, бачыў і адзначаў амаль ва ўсіх сатырах ледзьве прыкметныя парасткі гэтага будучага. І народы нашай краіны, дзе свята захоўваецца ўсё, што створана светлым чалавечым геніем, шануюць і любяць выдатную спадчыну Сабіра, якім па праву ганарыцца азербайджанскі народ.

САБІР

## МАЯ ДУША

**Душа мая! Сокал! Запал! Дабрата!**
**Як думка мая, узнясіся, лунай!**
**Ляці, падымайся аж за небакрай,—**
**Бо ў целе маім толькі змрок, цесната!**

**Што цела! Гняздо! І яго ты пакінь!**
**Ты будзеш у ім да скаччэння палаць.**
**Ты, кволая, будзеш са мной гараваць,**
**Не зможаш тугі маёй чорную плынь.**

**Забудзься пра цела! Яно ж бо не я!**
**Цябе засмучае расстанне са мной!**
**Ды ты — гэта я, толькі воблік не той,**
**А я — гэта ты! Ты навекі мая!**

**Ты пойдзеш — я разам з табою пайду:**
**На жаль, мы палонныя цела майго!**
**Ды ворагі марна чакаюць таго:**
**Пакуль ёсць жывыя, я не прападу!**

**Мы шчасця, душа, у жыцці не знайшлі.**
**Хутчэй жа ў той неразведаны кут,**
**Дзе сын чалавека свой знойдзе прыют,**
**Як толькі ён зробіцца жменькай зямлі.**

**Загіну я — ты, што спявала ў крыві,**
**Свабода, разліся, як водсвет зары!**
**Свабода вялікая, вечна гары!**
**Свабода-красуня, вякамі жыві!**

## БАЮСЯ!

**Ці ранкам блукаю па родных палях —**
**Шыпшыны калючкі не страшныя мне.**
**Ці ўночы гуляю па стэпах сівых —**
**Змяя пад нагою не страшная мне.**
**Ці возьме ў дарогу мяне карабель —**
**Ні буры, ні хвалі не страшныя мне.**
**Ступлю, адзінокі, на бераг чужы —**
**Дзікунскае племя не страшнае мне.**
**Як сонца прамень, упаду на вулкан,**
**І той загрукоча,— не страшны ён мне.**
**Калі я спушчуся, як цень, на лясы —**
**Ні воўка, ні тыгра не боязна мне.**
**На львоў незнарок набрыду ў трыснягу —**
**Не кінуся бегчы,— не боязна мне.**
**Спынюся на могілках я спачываць —**
**І цень вурдалака не страшны мне.**
**Руіны прытулак часовы дадуць —**
**Суседства з чарцямі не страшнае мне.**
**Куды б ні забрыў я на шары зямным —**
**Найгоршыя злыдні не страшныя мне.**
**Вандрую гадамі па землях чужых —**
**Насмешкі чужынцаў не страшныя мне.**
**Калі ж да мяне прававерны ідзе,**
**Паклясціся ўсімі святымі магу,**
**Яго вось, хоць страху не знаю зусім,**
**Баюся. О згінь ты, мой вораг стары!**
**Крывавых я звычак баюся тваіх!**
**Так, так! Яны страшныя, страшныя мне!**

Пераклад Еўдакіі ЛОСЬ.

# МУЗЫЧНАЯ ХРОНІКА

У актавай зале Брэсцкага музычнага вучылішча адбылося выступленне ўдзельніка Міжнароднага конкурсу імя Чайкоўскага Анатоля Галалобава, які ў свой час закончыў мясцовую музычную школу і цяпер вучыцца ў Ленінградскай кансерваторыі.

На канцэрт маладога піяніста прыйшлі не толькі яго бацькі, якія жывуць у Брэсце, але і шматлікія знаёмыя, сябры, прыхільнікі яго таленту. А. Галалобаў выканаў перад землякамі Першы фартэпіянны канцэрт Чайкоўскага і Канцэрт Грыга. Яму акампаніравала на другім фартэпіяна заслужаны педагог БССР Я. Дабратворская.

А. Галалобаў выступіў таксама перад калектывам музычнай школы, дзе ён раней вучыўся, і падзяліўся сваімі ўражаннямі ад Другога Міжнароднага конкурсу імя Чайкоўскага.

* * *

Перад аматарамі музыкі Віцебска, Мінска, Бабруйска выступіў з канцэртамі маскоўскі эстрадны аркестр пад кіраўніцтвам і пры ўдзеле Барыса Рэнскага. У выкананні вялікай канцэртнай праграмы ўдзельнічалі спевакі В. Лешчанка і Л. Цімафееў, вакальны квінтэт, канферансье А. Долін, артысты танцавальнага і арыгінальнага жанраў. Усяго маскоўскія артысты далі для працоўных Беларусі 8 канцэртаў.

* * *

Балетам «Мара» Я. Глебава закончыў сезон 1961-62 гг. Беларускі дзяржаўны тэатр оперы і балета. У пачатку чэрвеня калектыў тэатра выедзе на гастролі ў РСФСР. 5-га чэрвеня беларускія артысты операй «Чарадзейка» пачнуць свае выступленні ў Волгаградзе, дзе на працягу месяца пакажуць працоўным горада-героя лепшыя оперныя і балетныя спектаклі. У ліпені тэатр будзе гастраліраваць у г. Калінінградзе.

* * *

Саюз кампазітараў БССР наладзіў для вучняў і настаўнікаў 14-й сярэдняй школы горада Мінска канцэрт з твораў беларускіх і савецкіх кампазітараў.

З уступным словам выступіла музыказнаўца А. Ракава, якая расказала аб сучаснай беларускай музыцы, аб буйнейшых кампазітарах рэспублікі. У канцэрце прымала ўдзел група салістаў-спевакоў і інструменталістаў.

# *Па п'есе Маякоўскага*

Гэтымі днямі Беларускі рэспубліканскі тэатр юнага гледача паказаў мінчанам сваю новую работу—феерычную камедыю па п'есе Уладзіміра Маякоўскага «Клоп».

Спектакль пастаўлен галоўным рэжысёрам тэатра Б. Дакутовічам. Афармленне мастака А. Тарасава. Музыку напісаў кампазітар Я. Глебаў. Галоўныя ролі выконваюць: заслужаны артыст БССР Ул. Говар-Бандарэнка, артысты П. Дубашынскі, К. Каралёва, А. Мацюкевіч.

Тэатр запрасіў на прэм'еру сястру паэта—Людмілу Уладзіміраўну Маякоўскую. У канцы спектакля яна выступіла перад гледачамі з кароткай прамовай, у якой падзякавала калектыву тэатра за добры спектакль, а гледачам—за цёплы прыём.

Разам з Людмілай Уладзіміраўнай у Мінск прыехаў сябра таленавітага савецкага паэта П. І. Лавут. Ён прывёз з сабой дакументальную карціну аб Маякоўскім, якая была паказана калектыву тэатра.

**К. КІТАЕВІЧ.**

## На летнія гастролі

Бабруйскі перасоўны драматычны тэатр з пачатку гэтага года выпусціў чатыры новыя спектаклі: «Апошні крок» В. Зуба, «Дзіўны дом» П. Васілеўскага, «Кухарка замужам» А. Сафронава, «Выпадковыя сустрэчы» Р. Назарава. Вядзецца работа па грунтоўнаму аднаўленню спектакля «Раскіданае гняздо», які будзе прысвечаны 80-годдзю з дня нараджэння народнага паэта Беларусі — Янкі Купалы.

З 19 мая калектыў тэатра выехаў на гастролі ў раёны Віцебскай і Гродзенскай абласцей. Яго спектаклі ўбачаць у Крычаве, Оршы, Лепелі, Полацку, Міёрах, Глыбокім, Іўі, Гродна, Навагрудку, Карэлічах. Усяго будзе дадзена 180 спектакляў, з іх не менш 150 — у сельскай мясцовасці.

**А. АРКАДЗЬЕЎ,**
галоўны рэжысёр тэатра.

У мінулую нядзелю ў Мінску адбылося закрыццё зімовага канцэртнага сезона. У заключным канцэрце разам з Дзяржаўным сімфанічным аркестрам БССР (дырыжор В. Дуброўскі) выступіла прафесар Парыжскай кансерваторыі піяністка Магда Тальяферо, якая з'яўляецца настаўніцай лаўрэата Другога Міжнароднага конкурсу імя Чайкоўскага Крысціян Бійё. М. Тальяферо выканала ў суправаджэнні аркестра Другі фартэпіянны канцэрт Шапэна. У гэты ж вечар аматары музыкі з цікавасцю праслухалі ў выкананні аркестра Шостую сімфонію Чайкоўскага, «Балеро» Равеля, а звыш праграмы — «Сумны вальс» Сібеліуса і «Венгерскі танец № 1» Брамса. За дзень перад гэтым адбыўся сольны канцэрт французскай піяністкі, якая іграла творы Шумана і Шапэна.

На здымку: выступае М. Тальяферо.

Фота. Ул. КРУКА.

# ПОЛЬСКІ ЧАСОПІС ПАВЕДАМЛЯЕ...

### ВЯЛІКАЯ ПАПУЛЯРНАСЦЬ

Колькасць польскіх газет і часопісаў, якія распаўсюджваюцца ў Савецкім Саюзе па падпісцы і праз кіёскі «Саюздруку», складае цяпер прыкладна 367 тыс. экземпляраў, у тым ліку звыш 30 тыс. экз. газет і 330 тыс. часопісаў.

«Трыбуну люду» чытаюць у СССР 14 тысяч чалавек, «Жыцце Варшавы» — каля 6 тысяч, «Голас працы» — 2 700.

Вялікай папулярнасцю ў СССР карыстаюцца польскія грамадска-палітычныя і літаратурныя часопісы. Найбольшы поспех мае часопіс «Польшча», які выдаецца на рускай мове (95 тыс. экз.). З іншых польскіх часопісаў «Экран» распаўсюджваецца ў колькасці 50 тыс. экз., «Фільм»—звыш 45 тыс., «Кабета і жыццё» — 25 тыс.

Польскі друк ведаюць і чытаюць ва ўсіх рэспубліках СССР, больш за ўсё ў РСФСР, на Украіне, у Беларусі і Літве.

### ДОКТАР ГАНОРЫС КАУЗА

Сенат Варшаўскага універсітэта прысвоіў званне доктара ганорыс кауза выдатнаму савецкаму вучонаму, правадзейнаму члену АН СССР, прафесару С. Струміліну за выдатныя дасягненні ў галіне эканамічных навук.

Прафесар С. Струмілін напісаў каля 200 навуковых работ па статыстыцы, эканоміцы, планаванню і гісторыі народнай гаспадаркі Савецкага Саюза. Рад яго работ перакладзены на польскую мову.

### РАЗАМ З САВЕЦКІМІ СПЕЦЫЯЛІСТАМІ

У Ленінград выехаў прафесар Рамуальд Цэбяртовіч, які разам з савецкімі спецыялістамі будзе кіраваць работамі па ўмацаванню падмурка гістарычнага палаца, былой летняй рэзідэнцыі Пятра Вялікага.

Цудоўны, пабудаваны ў стылі барока палац, які адносіцца да найрадчэйшых скарбаў еўрапейскай архітэктуры таго перыяду, быў моцна разбураны фашыстамі ў 1941—1943 гг. і адноўлены потым савецкімі архітэктарамі.

Цяпер распрацаваны цікавы план умацавання і захавання 250-гадовага падмурка палаца ад дзеяння падземных вод (Петрапалац размешчан на беразе Фінскага заліва).

### ДЗВЕ ВЫСТАЎКІ

Вядуцца работы па падрыхтоўцы дзвюх вялікіх польскіх выставак у СССР.

Першая будзе адкрыта ў Мінску 22 ліпеня, у свята вызвалення Польшчы. Другая — у кастрычніку гэтага года ў Тбілісі.

### ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ АБ ПОЛЬШЧЫ

Дзяржаўнае навуковае выдавецтва рыхтуе да друку малую энцыклапедыю аб Польшчы на рускай, англійскай, французскай і нямецкай мовах. У томе 1.000 старонак і 4.500 артыкулаў. Рэдакцыйны камітэт энцыклапедыі ўзначальвае вядомы гісторык прафесар Аляксандр Гейштар. У канцы сёлетняга года энцыклапедыя будзе здадзена ў друк, а ў 1963-64 гг. паступіць у продаж.

### СЛОЎНІКІ

Больш 20 слоўнікаў рыхтуюць польскія вучоныя. Гэтая лічба сведчыць аб вялікім попыце на гэтую літаратуру.

Вядуцца работы над слоўнікамі па філасофіі, гісторыі, літаратуры, мовазнаўству, усходнезнаўству.

Вялікую цікавасць маюць такія выданні, як «Слоўнік польскага фальклору», «Слоўнік паэзіі і прозы А. Міцкевіча», «Слоўнік тэатра «Польскі», «Слоўнік польскіх славян».

Працягваюцца работы над спецыялізаваным «Слоўнікам асоб, звязаных з Польшчай да 1250 г.», а таксама над 10-томным «Слоўнікам польскай мовы» пад рэдакцыяй праф. В. Дарашэўскага і «Старажытнаславянскім слоўнікам».

З часопіса «Польскі агляд».

Галоўны рэдактар Н. Е. ПАШКЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: З. І. АЗГУР, А. І. БУТАКОЎ, К. П. ГУБАРЭВІЧ, В. Ул. ІВАШЫН, А. Н. МАРЦІНОВІЧ (адказны сакратар), П. Ф. ПРЫХОДЗЬКА, Р. К. САБАЛЕНКА (намеснік галоўнага рэдактара), М. Г. ТКАЧОЎ, І. З. ШАРАХОЎСКІ, І. Б. ШАЦІЛА, Р. Р. ШЫРМА.



«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР Минск.
Адрас рэдакцыі: г. Мінск, вул. Захарава, 19. Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі — 3-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 3-25-25, адказнага сакратара—3-25-25, аддзела літаратуры — 3-20-54, аддзела мастацтва — 3-24-62, аддзела культуры— 3-22-04, выдавецтва—3-19-52, бухгалтэрыі—3-11-03
«Літаратура і мастацтва» выходзіць два разы на тыдзень: у аўторак і пятніцу
АТ 013129.
Друкарня выдавецтва «Звязда».